Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address:
BIELARUS
P. O. Box 109
Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVIII. № 125 | Верасень 1967 | NEW YORK — TORONTO | September 1967 | Vol. XVIII. № 125.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ ЁРКУ

Беларуская дэлегацыя на чале із старшынём Галоўнай Управы БАЗА Уладзімерам Курылам і старшынём Галоўнай Управы Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня Верай Бартуль у мэра гораду Нью Ёрку Дж. В. Ліндзі ў часе Тыдня Паняволеных Народаў

### АРГАНІЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

Як і папярэднімі гадамі, Прэзыдэнт ЗША Ліндан Б. Джансан, згодна з прынятым у 1959 годзе Кангрэсам ЗША Публічным Законам 86-90, абвесьціў адмысловай праклямацыяй тыдзень ад 16 да 23 ліпеня — Тыднем Паняволеных Народаў.

На працягу гэтага Тыдня ў Нью Ёрку й іншых гарадох Амэрыкі адбываліся антыкамуністычныя маніфэстацыі прадстаўнікоў паняволеных народаў і зычлівых ім Амэрыканцаў. Актыўны ўдзел у Тыдні прыймалі й Беларусы Амэрыкі.

Правядзеньне Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку папярэднімі гадамі было ў руках Асамблеі Эўрапейскіх Паняволеных Народаў, арганізацыі, што складаецца з прадстаўнікоў паняволеных бальшавізмам краёў сярэдня-ўсходняй Эўропы, або г. зв. „сатэлітаў”, што перад апошняй вайной мелі свае незалежныя дзяржавы. Летась, калі старшынём Асамблеі Эўрапейскіх Паняволеных Народаў быў летувіскі палітык В. Шыдзікаўскас, Асамблея нясумленна выкарыстала Тыдзень Паняволеных Народаў для сваіх вузка палітычных мэтаў, канкрэтна ёю былі зробленыя захады, каб у часе Тыдня прадставіць навонкі толькі дзевяць савецкіх сатэлітных краёў пры поўным прамоўчваньні іншых паняволеных народаў. Хвальшыва паінфармаваны Асамблеяй амэрыканскі сьвятар Мортон Джыл у сваім казаньні падчас Божае Службы за паняволеныя народы ў ньюёркаўскай катэдры Сьв. Патрыка некалькі разоў успамінаў адно гэных дзевяць паняволеных народаў, зусім ня ўспомніўшы іншых, што названыя аднак у рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу 1959 году.

Супраць такой дыскрымінацыі бальшыні паняволеных народаў Галоўная Управа БАЗА, управа Украінскага Кангрэсавага Камітэту й арганізацыі іншых нацыянальнасьцяў зләжылі былі на рукі Я. Э. кардынала Ф. Спэлмана, Ватыканскага нунцыя ў ЗША, правінцыяла ордэну Езуітаў, да якога належыць успомнены сьвятар Мортон Джыл, войстры пратэст. Усе яны адказалі, што сталася гэта з прычыны непаразуменьня й што ў будучыні гэта не паўторыцца, а сьвятар Мортон Джыл, якому таксама быў перасланы пратэст, паведаміў у сваім лісьце да Галоўнай Управы БАЗА, што гэтак быў ён паінфармаваны арганізатарамі Тыдня ў Нью Ёрку, г. зн. Асамблеяй Эўрапейскіх Паняволеных Народаў.

У выніку гэтага пратэсту, сёлета паўстаў адмысловы Фэдэральны Камітэт Тыдня Паняволеных Народаў на чале із старшынём Украінскага Кангрэсавага Камітэту праф. Львом Дабранскім. На чале Ньюёркаўскага Камітэту Паняволеных Народаў стаў судзьдзя М. Трой. Гэты Камітэт выступаў ад імя ўсіх паняволеных народаў Эўропы й Азіі, а ня толькі ад „выбраных”.

### У КАТЭДРЫ СЬВ. ПАТРЫКА

У нядзелю 16 ліпеня прадстаўнікі паняволеных народаў сабраліся із сваімі нацыянальнымі сьцягамі ў катэдры Сьв. Патрыка ў Нью Ёрку, дзе Я. Э. кардынал Ф. Спэлман, у суслужэньні шматлікага духавенства, адправіў Божую Службу на інтэнцыю хуткага вызваленьня паняволеных расейскім і кітайскім камунізмам народаў. Тойжа, што й летась, сьвятар Мортон Джыл сказаў у часе Службы прынагоднае казаньне, у якім гэтым разам некалькі разоў пералічыў літаральна ўсе паняволеныя народы.

Пасьля Божае Службы адбыўся вуліцамі Нью Ёрку аж да будынку Задзіночаных Нацыяў вялікі маніфэстацыйны паход. Беларуская група з асяродзьдзя БАЗА й ЗБМА ішла ў паходзе із сваім нацыянальным сьцягам.

### У МЭРА ГОРАДУ НЬЮ ЁРКУ

19 ліпеня ў залі Сіты-Гол у Нью Ёрку прадстаўнікоў паняволеных народаў прыняў на ўрачыстай аўдыенцыі мэр гораду Нью Ёрку Джон В. Ліндзі і ў іхнай прысутнасьці падпісаў праклямацыю пра абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку. На гэтай урачыстасьці прысутнічала ладная група Беларусаў — прадстаўнікоў БАЗА й ЗБМА. Шмат якія зь іх, як відаць на зьмешчаным фотаздымку, былі ў беларускай народнай вопратцы.

### МІТЫНГ У КАМАДОР-ГАТЭЛІ

Ньюёркаўскім Камітэтам Тыдня Паняволеных Народаў 21 ліпеня быў скліканы ў залі Камадор-Гатэлю пратэстацыйны мітынг, на якім прамаўляў старшыня гэтага Камітэту М. Трой, старшыня Камітэту ў Бафало д-р М. Просак і адзін амэрыканскі жаўнер, што нядаўна змагаўся на фроньце ў Ветнаме.

Віцэ-старшыня Камітэтут д-р І. Дочаў, які вёў мітынг, прадставіў прысутных у залі старшыняў нацыянальных арганізацыяў, у тым ліку старшыню Галоўнае Управы БАЗА Ул. Курылу й старшыню Беларускага Кангрэсавага Камітэту І. Касяка. Апрача іх, на мітынгу была ладная колькасьць Беларусаў з асяродзьдзя вышэй названых арганізацыяў.

На мітынгу была прынятая рэзалюцыя супраць камуністычнага паняволеньня народаў Эўропы й Азіі. Рэзалюцыя была перасланая Прэзыдэнту ЗША Ліндану Б. Джансану, дзяржаўным дзеячом Амэрыкі й усім сябром Задзіночаных Нацыяў.

### ЛЯ СТАТУІ СВАБОДЫ

Арганізацыя „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў” ладзіла з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў пратэстацыйную ўрачыстасьць у нядзелю 23 ліпеня. Пасьля раньняе Божае Службы ў пратэстанцкай царкве Сьв. Тройцы на Вол Стрыт, усе нацыянальныя дэлегацыі паняволеных народаў (Альбанцы, Армяне, Азэрбайджанцы, Беларусы, Грузіны, Казакі, Кітайцы,Кубінцы, Паўдзённа-Ветнамцы, Паўночныя Каўкасцы, Румыны, Славакі, Вугорцы й Украінцы) із сваймі нацыянальнымі сьцягамі накіраваліся да прыстані, адкуль параплавам паехалі на абток, дзе стаіць Статуя Свабоды.

Тут пачаўся мітынг выступленьнем консуля Нацыянальнага Кітаю ў Нью Ёрку. Пасьля яго прамаўляў прадстаўнік амбасадара Паўдзённага Ветнаму пры Задзіночаных Нацыях. З выдатнай прамовай выступіў дэмакратычны кангрэсмэн ад Нью Ёрку Джон Марфі, які заклікаў усе паняволеныя народы моцна трымацца сваіх традыцыяў. Пасьля яго ад імя мэра гораду й губэрнатара штату віталі прысутных выдэлегаваныя імі прадстаўнікі.

Галоўным прамоўцам быў праф. Леў Дабранскі, які моцна крытыкаваў амэрыканскую прэсу за дзіўную няпрыхільнасьць да ўсіх паняволеных камунізмам народаў, як і за скрываньне, а часта й перакручваньне аўтэнтычных фактаў. Урачыстасьць закончылася выступленьнем старшыні арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў” Альфрэда Кокрна і ўрачыстым злажэньнем вянка ў падножжа Статуі Свабоды.

Ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ўдзел у ўрачыстасьці прыймалі д-р Ул. Набагез, інж. М. Гарошка, д-р Р. Гарошка й сп. П. Манькоўскі.

---

### А Б В Е С Т К А

Стараньнем Управы Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе (Ангельшчына) выдаюцца юбілейныя канвэрты для адзначаньня 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Канвэрты будуць мець 4 x 9 разьмеру, белага колеру з нацыянальнымі сьцяжкамі й гэрбам „Пагоняй” залатога колеру пасярэдзіне. Цана за 100 штук (ня менш) — 5 даляраў. Замаўленьні трэба высылаць на адрыс прадстаўніцтва газэты „Беларус” у Вялікай Брытаніі:

Mr. J. KALBASA
3 Rowton Thorpe, Greengates
Bradford, Yorks, England

На гэты-ж адрыс можна высылаць замаўленьні й на юбілейныя гальтушкі (краваты), якія таксама будуць мець вытканую „Пагоню” й беларускія нацыянальныя колеры. Гальштукі з тырэліны й вельмі прыгожа вытканыя каштуюць па 4 даляры.

---

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце часапіс Беларусаў Паўночнае Амэрыкі „Б Е Л А Р У С”**

---

*5-га верасьня сёлета спаўняецца 50 год жыцьця й 25 год сыстэматычнай нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці вялікага прыяцеля нашае газэты й шчодрага ахвярадаўцы на ейнае выдаваньне, адданага й шчырага беларускага працаўніка*

**ДОКТАРА ЯЗЭПА САЖЫЧА**

*З нагоды Ягонага падвойнага юбілею шчыра жадаем Доктару Язэпу Сажычу доўгага жыцьця, добрага здароўя, памыснасьці ў васабістым жыцьці, а таксама далейшае плённае дзейнасьці на беларускай ніве.*

**Рэдакцыя газэты „Беларус”**

## САВЕЦКІ ДЗЕНЬ НА ЭКСПО — 67

Мантрэальская Выстаўка ЭКСПО 67 ад самага свайго адчыненьня 28 красавіка сёлета сталася штодзённым калейдаскопам падзеяў: мастацкіх, культурных, палітычных, міжнародных. У гэтым калейдаскопе дзень 15-га жніўня, адзначаны як нацыянальны дзень Савецкага Саюзу, быў, праўдападобна, адным з найбольш каларытных і багатых, зь ветраным, сонечным надвор'ем і разнаякай культурна-мастацкай праграмай. Да рэчы, у гэты-ж дзень Індыя ў сваім павіліёне на Выстаўцы адзначала таксама сьвята: 19-ыя ўгодкі незалежнасьці. Урачыстасьці нацыянальнага дня Савецкага Саюзу адбываліся цэлы дзень, часамі адначасна ў колькіх месцах.

Пачалося ўсё раніцой на пляцы Нацыяў канцэртнымі сьпевамі, парадам 15-цёх сьцягоў савецкіх Рэспублікаў і 180-цёх артыстых, афіцыйным прывітаньнем першага заступніка савецкага прэм'ера Касыгіна — Дзімітры Палянскага, ды кароткімі прамовамі пра значэньне мантрэальскай Выстаўкі й патрэбу мірнага суіснаваньня. На працягу дня савецкія артыстыя й акторы далі тры канцэрты: адзін перад уваходам у савецкі павіліён, адзін большы на пляцы Нацыяў, ды адзін у тэатры павіліёну. Праграма канцэрту была шматнацыянальнай. Нумары расейскія, узбэцкія, літоўскія, армянскія дый інш. На выдатным месцы ў гэтай праграме быў удзел вялікай групы Украінцаў зь ведамага народнага ансамблю імя Віроўкі. Ансамбль — сто чалавек, прыбыў у Монтрэаль у сувязі з Украінскім нацыянальным днём, што будзе адзначаны 22-га жніўня. Асаблівую ўвагу канадзкі друк прысьвячае трупе Маскоўскага Вялікага Тэатру, што прыбыла сюды ўпяршыню. У праграме сьвяткаваньняў нацыянальнага дня Савецкага Саюзу быў таксама паказ кіеўскіх жаноцкіх модаў у будынку савецкага павіліёну.

Прэсавыя камунікаты гэтага дня падавалі інфармацыі пра дасягненьні Савецкага Саюзу, ягоную палітычную структуру, пра паасобныя нацыянальнасьці. Шмат увагі нацыянальнаму дню Савецкага Саюзу прысьвяціў, дый усьцяж прысьвячае, мантрэальскі друк і займаецца гэтым пытаньнем куды шырэй, чымся яно сфармуляванае у прэсавых камунікатах.

Паўстала навет свайго роду супярэчка навокала пытаньня савецкага фэдэралізму дый пажаданасьці прытарнаваньня яго да Канады. Тэма гэтая асабліва актуальная ў Монтрэалі й цэлай правінцыі Квібэк, у якой, як ведама, мае месца даволі паважны сэпаратыстычны рух, культурны, за аднаўленьне правоў францускае мовы, і эканамічна-палітычны, за поўнае гаспадарэньне эканамічнымі рэсурсамі Квібэку, ды за незалежнасьць вонкавых сувязяў. Францускі прэзыдэнт Дэ Голь нядаўна, калі наведваў Канаду, граючы на нацыянальных пачуцьцях квібэкцаў, узьняў быў цэлы фурор сваім клічам: „Няхай жыве вольны Квібэк”!

Вось-жа на прыняцьці першага заступніка савецкага прэм'ера Палянскага прэм'ер правінцыі Квібэк Даніель Джонсон адзначыў, разам з тэхнічнымі дасягненьнямі Савецкага Саюзу, і дасягненьні ў галіне савецкага фэдэральнага ладу, пашану да нацыянальнае мовы й нацыянальных асаблівасьцяў у кажнай рэспубліцы, а таксама, кажучы словамі квібэкскага прэм'ера, вельмі вялікую кампэтэнцыю саюзных рэспублікаў у справах міжнародных. З гэтых канстытуцыйных дасягненьняў Савецкага Саюзу прэм'ер Джонсон хацеў-бы, каб скарыстала й Канадзкая фэдэрацыя.

Бальшыня камэнтатараў як француска-моўнага, гэтак і англа-моўнага друку, паставіліся вельмі крытычна да гэтага выказваньня квібэкскага прэм'ера. „Калі містар Джонсон, — піша, прыкладам, уплывовая газэта „Дэ Монтрэал Стар”, — запраўды хоча для Квібэку таго, што маюць савецкія рэспублікі, дык канец ўсёй нашай праблеме”. Пра якія міжнародныя кампэтэнцыі, пытаецца газэта, можна гаварыць у выпадку Украіны й Беларусі? Рэспублікі гэтыя, піша „Дэ Монтрэал Стар”, гэта адміністрацыйныя адзінкі плюс народныя танцы дый яшчэ тое-сёе.

На ЭКСПО 67, тым ня менш, у часе нацыянальнага дня Савецкага Саюзу, выканальнікі народных танцаў і эстрадных нумароў, карысталіся вельмі цёплым прыймом. Канцэрт на пляцы Нацыяў, паводля назіральнікаў, прыцягнуў да сябе вялікую, шматтысячную грамаду, найбольшую за ўвесь час Выстаўкі.

На тым-жа пляцы Нацыяў адбылася й адна палітычная маніфэстацыя, што выпала ня ў тон афіцыйным прамовам. У часе, калі Палянскі рабіў агляд ганаровай варты, у натоўпе раздаўся выкрык за свабоду для Беларусі, і на публіку ўніз паляцелі брашуры. Паліцыя арыштавала таго, хто раськідаў брашуры. Гэта быў,як выявілася неўзабаве, беларускі замежны пісьменьнік і журналісты з гораду Таронта, Канстантын Акула.

У брашурах, што ён раськінуў, у дзьвюх мовах, пафранцуску й паангельску, выкрываецца фікцыйнасьць сувэрэннасьці Савецкае Беларусі, пішацца пра вызвольнае змаганьне беларускага народу, перасьлед і вынішчэньне Беларусаў савецкай уладай ды здушваньне беларускае культуры. Друк і тэлебачаньне, рэпартуючы пра нацыянальны дзень Савецкага Саюзу, адзначылі й гэты інцыдэнт.

Дарэчы, вось як тлумачаць гіды ў савецкім павіліёне перанясеньне датаў украінскага й беларускага нацыянальных днёў 16-га і 17-га жніўня — на 22-га жніўня ўкраінскага й на 28-га верасьня — беларускага: зроблена гэта дзеля таго, кажуць гіды, каб Украіна й Беларусь, як і іншыя рэспублікі перад імі, мелі кажная для сябе цэлы тыдзень праграмы на Выстаўцы. Гэтага яны не маглі-б мець, калі-б сьвяткаваліся тры дні ўзапар, як гэта плянавалася было спачатку, усесаюзны дзень — 15-га жніўня, украінскі — 16-га і беларускі 17-га.

Зьмена гэтая, аднак, для шмат каго зь Беларусаў і Украінцаў Канады ды Задзіночаных Штатаў абазначае тое, што на нацыянальным дні гэтых рэспублікаў пабываць яны ня здолеюць, бо летні адпачынак распляноўваецца загадзя наперад, і яшчэ раз прыехаць у Мантрэаль бальшыні ня ўдасца.

**Я. З.**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

# АГРЭСАРАМ БЫЛА МАСКВА

### ДА НЯДАЎНЫХ ПАДЗЕЯЎ НА СЯРЭДНІМ УСХОДЗЕ

Калі 5-га чырвеня сёлета ўспыхнуў вайною Сярэдні Ўсход. сьвет затаіў дыханьне. Ад часу кубінскага крызысу чалавецтва апынулася на парозе атамнае вайны. Рада Бясьпекі ЗН усьпела адно змайстраваць пару рэзалюцыяў, як за тры дні скончылася вайна. Жаўнеры Ізраэля стаялі не беразе Суэскага каналу, над ракой Ярдан і ў глыбі Сырыі. Прынамся тры арабскія краіны — Эгіпт, Ярдан і Сырыя апынуліся над пропасьцю эканамічнае руіны, а Ізраэль стаўся найбольшай мілітарнай магутнасьцяй на скрыжаваньні галоўных дарогаў сьвету. У Ерузаліме пад Сьцяной Плачу — руінамі другога жыдоўскага храму Гэрада — маліліся Жыды, а ў Нью Ёрку, у сьценах мадэрнага будынку ЗН махаў кулаком і скрыгатаў зубамі, апроч Арабаў, савецкі прадстаўнік у Радзе Бясьпекі Федарэнка.

Сяньня над савецка-арабскай авантурай і ейнымі вынікамі на Сярэднім Усходзе пастаўлена ўжо шмат кропак. Адно, здаецца, вольныя Беларусы не сказалі свайго слова.

Каб ацаніць гэтую вайну ў належных прапорцыях, варта затрымацца над пытаньнем — хто-ж быў агрэсарам? У міжнародным праве прынятая норма, згодна якой агрэсіяй ёсьць, апроч захопніцкіх ваенных дзеяньняў, таксама і блякада жыцьцёва неабходных шляхоў дзяржавы. Гэткім чынам, калі пасьля сакавітых пагрозаў паводля таго, што ўсіх Жыдоў трэба павыкідаць у мора, што Ізраэль ня мае права існаваньня, Эгіпскі дыктатар Насар заблякаваў затоку Акаба й адрэзаў Ізраэлю праз Чырвонае мора гандлёвы доступ у Індыйскі акіян. Гэты акт зусім слушна Ізраэль палічыў агрэсіяй і пайшоў вайной на арабскія дзяржавы.

Адылі няправільны, на нашу думку, пагляд, што агрэсарам стаўся сам Насар і іншыя Арабы. Пасьля Сінайскае вайны ў 1957 годзе эгіпскі дыктатар добра ведаў ізраэльскую сілу й наважанасьць жыдоўскага народу бараніць сваё права да самастойнага дэмакратычнага жыцьця. Гэтым разам ужо хто як хто, а сам адзін Насар ня кінуўся-б на Ізраэль на сваіх вярблюдах, калі-б ня помач і падбухторваньне з боку Масквы.

На працягу апошніх дзесяці год валадары Савецкага Саюзу азбройвалі Эгіпт і Сырыю. Савецкія дыктатары ці не намагаліся пераплюнуць Кацярыну II-ую й іншых „мірапамазаньнікаў на прастоле". Тыя пхаліся на Балканы і ў Турцыю, а гэтыя адным махам намагаліся ўвесь арабскі сьвет сабе падпарадкаваць. Калі-б гэта ім удалося, Турцыя ўпала-б, як сьпелая сьліўка, у маскоўскі кошык, а бальшавікі змаглі-б сесьці на жыц:цёвы гарляк Заходняе Эўропы, каторай эканамічны пульс залежны ёсьць ад Суэскага каналу й арабскае нафты. Характэрна, аднак, што бальшавікі хацелі гэта ўсё дасягнуць чужымі арабскімі рукамі. Такім чынам запраўдным агрэсарам на Сярэднім Усходзе трэба ўважаць Маскву, а Насара адно памочнікам.

Гэтым разам савецкія дыктатары жахліва пралічыліся. Баючыся атамнае вайны із Задзіночанымі Штатамі, яны абмежаваліся адно дыпляматычнымі ходамі. Бальшавіцкая палітыка ў гэтым раёне пацярпела поўны крах. Сьвет добра ацаніў вартасьць хаўрусу з Масквой.

Ці-ж цяжка ўявіць сабе, у якім палажэньні апынулася-б ня толькі Заходняя Эўропа, але й цэлы сьвет, калі-б перамог ня Ізраэль, а Масква з Арабамі? Масква паставіла-б пад пагрозу й шантаж эканамічнае жыцьцё Заходняе Эўропы. Якія-б былі палітычныя вынікі гэтага, няцяжка адгадаць.

Вольны сьвет павінен быць удзячны Ізраэлю за тое, што прывучыў Маскву й Арабаў. Адно, відаць, вучні яшчэ не засвоілі матар'ялу. I цяпер маскоўскае ваеннае знарадзьдзе плыве й ляціць у Эгіпт, а самі Арабы, лаючы Маскву й Жыдоў, пагражаюць апошнім страшэннай помстай. Тымчасам-жа каштоўнае ваеннае знарадзьдзе бокам вылазіць падсавецкаму, у тым ліку й беларускаму, работніку й селяніну.

Самі знаходзячыся ў беспрасьветнай галіце, яны крамлёўскімі дыктатарамі змушаныя рыхтаваць зброю для чарговай антычалавечай авантуры. Тымчасам сотні тысячаў ахвяраў вайны, арабскіх уцекачоў, церпяць у нялюдзкіх жыцьцёвых умовах у лягерах.

Калі-ж апамятаецца нарэшце Вольны Сьвет і выкарыстае сваю маральную й фізычную перавагу, каб забясьпечыць права жыць кажнага народу перад забойчымі амбіцыямі сусьветнага авантурніка?

**К. Акула**

*ПЫТАНЬНІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛІЗМУ*

# 4. БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ І ГІСТАРЫЧНАЯ МІНУУШЧЫНА

Адным з найважнейшых кампанэнтаў беларускага нацыяналізму сталася імкненьне да навязаньня ідэйнай лучнасьці зь гістарычнай мінуўшчынай беларускага народу. Адсюль руплівае жаданьне пазнаць гэтую мінуўшчыну ў ейным аб'ектыўным сьвятле, вольным ад палітычнай тэндэнцыі чужых гісторыкаў, услаўленьне й навет ідэялізацыя гэтае мінуўшчыны. Беларускія адраджэнцы шукалі ў мінуўшчыне ідэйнае базы й гістарычнага абаснаваньня свайго нацыяналізму.

Яшчэ Кастусь Каліноўскі ў выдаванай ім „Мужыцкай праўдзе" пісаў: **„Быў калісьці народ наш вольны і багаты".** Пазьней Францішак Багушэвіч у сваёй прадмове да „Дудкі беларускай" прыпамінаў народу, што ў Вялікім Княстве Літоўскім, **„як тое зерне ў гарэсе — была наша зямліца Беларусь".** Зварот да мінуўшчыны, як ідэйнай асновы беларускага нацыяналізму, стаўся адным з галоўных атрыбутаў нашаніўскага адраджэньня й знайшоў найбольш поўнае выражэньне ў творчасьці Янкі Купалы. Таму такія высокамастацкія ягоныя творы, як „На Куцьцю", „На Дзяды", „Над Нёманам", „Свайму Народу", у якіх найзырчэй выявілася ўслаўленьне мінуўшыны Беларусі, яшчэ й сяньня пад цэнзурнай забаронай у Савецкай Беларусі.

Савецкая гістарыяграфія выпрацавала ў дачыненьні да мінуўшчыны Беларусі пяць галоўных тэзаў. Першая зь іх цьвердзіць, што ў старыну. дакуль сягае памяць гісторыі й да XIII стагодзьдзя, беларускі народ тварыў разам з расейскім і ўкраінскім народамі адзіную старажытна-рускую супольнасьць. Паводля наступнай тэзы, Беларусь у эпоху Вялікага Княства Літоўскага знаходзілася пад няволяй літоўскіх князёў, а пасьля Люблінскае вуніі няволю літоўскую замяніла польская няволя. На працягу ўсяго свайго гістарычнага йснаваньня беларускі народ імкнуўся да задзіночаньня з братнім расейскім народам— кажа трэйцяя тэза. Тэза чацьвертая цьвердзіць, што прылучэньне ў канцы XVIII стагодзьдзя Беларусі да Расеі было зьявай заканамернай, пазытыўнай і карыснай для беларускага народу. Паводля пятае тэзы, толькі ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы Камуністычнае партыі ды бескарысьлівай дапамозе „вялікага" рускага народу, беларускі народ упяршыню ў гісторыі здабыў сваю дзяржаўнасьць.

Усе гэтыя тэзы савецкай партыйнай гістарыяграфіі — поўнае заярэчаньне гістарычнай праўды й выкрыўленьне аб'ектыўных фактаў гісторыі. Іх ніяк нельга разглядаць у навуковай роўніцы. Тэзы гэтыя — ня лягічныя высновы з навуковага дасьледваньня мінуўшчыны. Яны ня што іншае, як ідэялягічныя пункты палітычнай праграмы партыі, да якой мэханічна нагінаецца гістарычная навука, становячыся гэтым псэўданавукай.

I таму ўсякія спробы беларускіх гісторыкаў аб'ектыўна - навукова глянуць на мінуўшчыну свайго народу адразу-ж раскрываюць увесь хвальш савецкай гістарыяграфіі й сьцягваюць на іх незадавальненьне партыі. Дастаткова было Міколу Прашковічу й Міколу Аляксютовічу год таму на бачынах „Полымя" асьцярожна намякнуць, што беларускія ўдзельныя княствы ў старажытную эпоху, галоўна-ж Вялікае Княства Літоўскае былі беларускімі дзяржаўна-незалежніцкімі фармацыямі, як гісторыкі гэтыя былі зьвінавачаныя ў беларускім буржуазным нацыяналізьме. I калі яшчэ нядаўна ў першым нумары „Коммуниста Белоруссии" за сёлетні год сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч зьвінавачваў беларускіх гісторыкаў у зробленых імі „суб'ектыўных перакосах і зрушэньні гістарычнай пэрспэктывы" ў іхнай ацэне „гістарычнай мінуўшчыны беларускага народу ў эпоху фэадалізму", дык напэўна меў на думцы Прашковіча, Аляксютовіча й іншых, хоць і не назваў іх па імені.

Як толькі партыйная гістарыяграфія стыкаецца лоб у лоб з канкрэтнымі гістарычнымі фактамі, яна ніяк ня можа ўсьцерагчыся няўхільнай у такім выпадку блытаніны й супярэчнасьцяў, што зводзяць на нішто ейную аўтарытэтнасьць. Прыкладам, Вячаслаў Чамярыцкі, рэцэнзуючы ў сёлетнім красавіковым нумары „Полымя" выдадзеную ў Маскве ў перакладзе на расейскую мову беларускую „Хроніку Быхаўца", ня мог не адзначыць аднае важнае зьявы, што запярэчвае адну з вышэй згаданых тэзаў савецкае гістарыяграфіі. Ён сьцьвердзіў, што невядомы аўтар гэтае хронікі, напісанай у палавіне XVI стагодзьдзя, гэта значыць, у пэрыяд росквіту Вялікага Княства Літоўскага, уважаў гэтае княства за беларускую дзяржаву, а ягоных беларускіх жыхароў за гарачых патрыётаў гэтае дзяржавы. Калі-б прытрымлівацца лёгікі савецкай гістарыяграфіі й сяньняшняй партыйнай палітыкі, дык і гэнага аўтара „Хронікі Быхаўца", і беларускае жыхарства Вялікага Княства Літоўскага трэба было-б таксама зьвінаваціць у беларускім буржуазным нацыяналізьме.

Не зважаючы на падобныя парадоксы, партыя, аднак, ня думае зрэвідаваць сваіх псэўданавуковых пазыцыяў у насьвятленьні гістарычнай мінуўчшыны беларускага народу. Наадварот, яна наважаная замацоўваць свае даселюшнія пазыцыі. У сувязі з гэтым асаблівую вымову мае заява дырэктара Інстытуту гісторыі Акадэміі Навукаў БССР Н. Каменскай, надрукованая ў нумары 15-тым за красавік сёлета газэты для Беларусаў на Захадзе „Голас Радзімы". Інфармуючы пра зрыхтаваньне „Гісторыі БССР" у пяці томах, над якой працуюць цяперака савецкія гісторыкі, Каменская піша: **„Матарыялы і першага і другога тамоў пераконваюць у тым, што беларускі народ ня меў сваёй дзяржаўнасьці, і спробы буржуазных нацыяналістых знайсьці яе ў XIV-XVI стагодзьдзях, калі тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, ня маюць ніякай падставы".** Не зайздросьцім ані Н. Каменскай, ані гэным савецкім гісторыкам, што працуюць над „Гісторыяй БССР" у пяці томах, у іхнай услужлівай дапамозе, робленай за кошт іхнага навуковага сумленьня, адабраць у беларускага народу ягоную гісторыю.

Не зважаючы на гэта, сярод інтэлігенцыі Савецкай Беларусі паглыбляецца сяньня любасьць і пашана да сваёй слаўнай гістарычнай мінуўшчыны, родзіцца жаданьне пазнаць яе ўва ўсёй ейнай велічы й праўдзе. Не баючыся быць зьвінавачанымі ў буржуазным нацыяналізьме, беларускія гісторыкі ўсё часьцей намагаюцца паказваць мінуўшчыну Беларусі ў аб'ектыўным сьвятле. Беларускія паэты й пісьменьнікі штораз часьцей знаходзяць запраўднае натхненьне ў творчым выкарыстоўваньні гістарычных тэмаў і ўслаўленьні гістарычных дасягненьняў беларускага народу. Як і ў нашаніўскую пару, гістарычная мінуўшчына Беларусі заплоднівае беларускі нацыяналізм і сяньня, а народу дае ідэйную моц і пачуцьцё нацыянальнай годнасьці.

**Ст. Станкевіч**

### РАЗЬВІТАНЬНЕ З НАТАЛЬЛЯЙ АРСЕНЬНЕВАЙ

Беларуская паэтка й грамадзкая працаўніца Натальля Арсеньнева, што жыла ў Нью Ёрку й працавала ў Беларускай Сэкцыі Радыё „Свабода", з днём 1 жніўня перайшла на пэнсію й пераехала на сталае жыхарства да свайго сына Уладыслава Кушаля ў Рачэстар у штаце Нью Ёрку, куды колькі месяцаў раней пераехаў і ейны муж ген. Пранціш Кушаль. З гэтае нагоды Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, у якім сп-ня Арсеньнева працавала даўгагадовым сакратаром, і Ньюёркаўская Акруга БАЗА зладзілі ёй у суботу 5 жніўня ў залі Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ўрачыстую разьвітальную бяседу.

Урачыстасьць адчыніў старшыня БІНіМ д-р В. Тумаш, адзначаючы вялікую працу й заслугі сп-ні Арсеньневай для Інстытуту. Пасьля яго прамаўлялі й разьвіталіся із сп-няй Арсеньневай прадстаўнікі беларускага грамадзтва Нью Ёрку й Нью Бранcьвіку ў наступным парадку: д-р Ст. Станкевіч, сп. М. Тулейка, сп. Я. Запруднік, сп. М. Кунцэвіч, д-р Ул. Набагез, сп. Ул. Русак, сп. А. Стагановіч, сп. Б. Даніловіч, сп-ня З. Станкевіч, сп. В. Русак і сп. Я. Гутkоўскі.

Сп-ня З. Станкевіч перадала сп-ні Арсеньневай прывітаньне ад. кс. П. Татарыновіча з Рыму, зь якім, будучы нядаўна ў Эўропе, бачылася асабіста, ды паінфармавала аб ягонай цяжкай і ахвярнай працы пры выдаваньні часапісу „Зьніч". Бяручы гэта на ўвагу, прысутныя тут-жа зладжылі 50 даляраў на гэты часапіс.

Д-р Ул. Набагез перадаў сп-ні Арсеньневай ад Ньюёркаўскай Акруговай Управы БАЗА памятны альбом, а д-р В. Тумаш — ад імя БІНіМ залатое пяро. Прысутны на бяседзе сьпявак П. Конюх прапяяў песьню „Што сядзіш ты мой, браце, пануры". Наапошку сп-ня Арсеньнева падзякавала прысутным за ўвагу да яе.

### П А Д З Я К А

**Чытачы й прыхільнікі „Беларуса" ў Кліўлендзе злажылі ў якасьці ахвяры суму 250 даляраў на Выдавецкі Фонд нашае газэты. За гэтую іхную ахвярнасьць, якая павінна служыць прыкладам для іншых, выказваем на гэтым месцы нашую шчырую падзяку й ня менш шчырую просьбу не забывацца пра долю роднага друкаванага слова і ў будучыні.**

**Рэдакцыя „Беларуса"**

# АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБМА

29 ліпеня сёлета ў Беларускім Цэнтры Адпачынку „Бэлейр-Менск" адбыўся 13 Зьезд Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі з удзелам дэлегатаў ад наступных аддзелаў ЗБМА: у Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Кліўлендзе, Дэтройце, а так-жа ад Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Канадзе (Таронта).

Зьезд адчыніў дасюлешні старшыня Галоўнага Кіраўніцтва ЗБМА сп. Аўген Лысюк, пасьля чаго былі выбраны Прэзыдыюм Зьезду ў складзе К. Калошы (Кліўленд) — старшыні, Ю. Станкевіча (Нью Ёрк) і Галіны Кананчук (Кліўленд) — сакратароў.

Пасьля прачытаньня й прыняцьця парадку дня, старшыня Зьезду даў слова прадстаўніком беларускіх арганізацыяў дзеля прывітаньняў. Зьезд віталі: д-р Ст. Станкевіч ад Рэдакцыі газэты „Беларус", сп. К. Мярляк — ад карпарацыі „Бэлейр-Менск", сп. К. Акула — ад літаратурна-мастацкага Клюбу „Пагоня", д-р Я. Сажыч — ад Галоўнай Управы БАЗА, а пазьней — старшыня Галоўнай Управы БАЗА Ул. Курыла.

Галоўнай часткай Зьезду былі справаздачы зь дзейнасьці паасобных Аддзелаў і Галоўнай Управы ЗБМА. Із справаздачаў, а таксама з дыскусіі над справаздачамі выявілася, што ЗБМА ў цэласьці, гэтак і ягонае Галоўнае Кіраўніцтва на працягу ўсяе кадэнцыі праяўлялі плённую й шматбаковую дзейнасьць у гэткіх важных галінах, як нацыянальная рэпрэзэнтацыя, прыйманьне ўдзелу ў розных агульна-амэрыканскіх фэстывалях і іншых імпрэзах, танцавальныя гурткі, ладжаньне канцэртаў, выдавецкая й спартовая галіны.

З выдавецкай дзейнасьці трэба адзначыць выдаваньне моладзяй свайго часапісу „Беларская Моладзь", які апошнім часам, нажаль, пачаў выходзіць нярэгулярна, а так-жа прыгатаваны ўжо да друку вялікі альманах зь дзейнасьці ЗБМА цяперака і ў мінулым, які яшчэ сёлета мае выйсьці друкам у выдавецтве Друкарскай супалкі „Пагоня". Альманах будзе мець больш за сто бачынаў друку вялікага фармату, будзе зьмяшчаць каля 350 фатаграфіяў зь дзейнасьці арганізацыі й будзе каштаваць 5 даляраў.

Выступаючыя ў дыскусіі сьцьвердзілі, што асабліва адданым арганізацыі й актыўным у ейнай дзейнасьці быў сам старшыня Галоўнага Кіраўніцтва ЗБМА Аўген Лысюк, старшыні Аддзелаў, ды некаторыя сябры ўправаў, як Галоўнай, гэтак і Аддзелаў.

У новае Галоўнае Кіраўніцтва ЗБМА былі выбраныя: Ул. Дунец (Кліўленд) — старшыня, Б. Кірка (Таронта) — віцэ-старшыня, Валя Гарох (Кліўленд) — сакратар, Марыя Каваленка (Кліўленд) — скарбнік, Ала Лосік (Нью Бранcьвік) — сябра.

У Рэвізійную Камісію ўвайшлі: Крыстына Юрцэвіч, Ганна Харавец і Ганна Зыбайла.

Нельга не адзначыць аднэй цікавай і прыемнай зьявы, што выявілася на Зьезьдзе. У той час, як у арганізацыях старэйшых звычайна прыймаюць актыўны ўдзел мужчыны, а з жанчынаў адно адзінкі, у арганізацыі моладзі — ЗБМА актыўны ўдзел дзяўчат што найменш роўны з удзелам хлапцоў, а можа нат і большы. Гэтак і на Зьезьдзе ці ня больш было дзяўчат, як хлапцоў, а актыўнасьць дзяўчат значна больш кідалася ў вочы. Гэтую зьяву застаецца адно вітаць.

Нельга таксама не адзначыць і аднэй прыкрай зьявы: Зьезд праводзіўся фактычна ў ангельскай мове, пераплятанай дзе-ня-дзе, адно быццам для прыліку, беларускімі сказамі й словамі. Да гэтага вельмі важнага й прынцыповага пытаньня мы аднак вернемся асобна.

Да важных дасягненьняў у дзейнасьці моладзі трэба залічыць і навязаньне блізкіх дачыненьняў і супрацоўніцтва з моладзяй Канады, што навет арганізацыя апошняй прыймала актыўны ўдзел у зьезьдзе, а ейны старшыня Барыс Кірка быў навет выбраны віцэ-старшынём Галоўнага Кіраўніцтва ЗБМА.

Застаецца йшчэ пажадаць, каб такое-ж супрацоўніцтва было наладжанае й з арганізацыяй беларускае моладзі ў Чыкага.

З нагоды Зьезду ЗБМА вечарам у суботу 29 ліпеня ў новазбудаванай вялікай і прыгожай залі „Бэлейр-Менску" адбылася танцавальная вечарына. У часе вечарыны танцавальныя гурткі моладзі: Тарантонскі пад кіраўніцтвам сп. Б. Кіркі й Кліўлендзкі пад кіраўніцтвам сп. Ул. Дунца выканалі па некалькі беларускіх народных танцаў. Радасна было глядзець, як жвавыя дзяўчаты й хлопцы ў маляўнічых народных вопратках пад гукі аркестры рытмічна выконвалі арыгінальныя фігуры самабытных беларускіх танцаў. Застаецца паставіць у дакор моладзі Нью Ёрку й Нью Джэрзі, што яны не паклапаціліся выступіць таксама з народнымі танцамі. У суботу па абедзе і цэлую нядзелю адбываліся спартовыя гульні й змаганьні паасобных спартовых дружынаў ЗБМА.

У цэласьці Зьезд пакінуў вельмі прыемнае ўражаньне й быў довадам, што нашая моладзь, хоць і адхіляецца ад роднае мовы, у чым віна бацькоў і старэйшага грамадзтва, што патураюць гэтаму, усё-ж шчыра горнецца да свайго роднага, беларускага ў іншым . . .

**Ст. Ст.**



# ВЕСТКІ з КАНАДЫ



BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім присылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**ВЫСТАЎКА**

у чэсьць

**450-ЫХ УГОДКАЎ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ**

адчыняецца

**ЧАС:** 17-га верасьня, у нядзелю а 12:30 папаўдні
**МЕСЦА:** Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр у Таронта
**У ПРАГРАМЕ:** Даклад д-р В. Тумаша — Старшыні БІНіМ.

## ДА КАНАДЫЙСКАЙ РЭДАКЦЫІ "БЕЛАРУСА"

**Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар:**

Не адмоўце надрукаваць у Вашай паважанай газэце наступнае выясьненьне:

У газэце „Беларус" № 123 - 124 у артыкуле „Экспо — 67 і Беларусь" аўтар сп. К. Акула гаворыць аб якімсь ананімным вялікім сходзе сваіх людзей, г. зн. Беларусаў, на якім ён падняў пытаньне аб пашыраньні прапагандовых лятучак на Экспо, і далей кажа: „Перапалоханыя „змагары", а найперш сам „змагарны" старшыня сходу, замяў для яснасьці. Як жа гэта! Канадыйская фэдэральная паліцыя (Р.С.М.П.) яшчэ раней пальцам намахала, каб, барані Божа! А то чаго добрага пападзешся яшчэ".

Каб ня было фальшывых гутарак і непаразуменьняў, уважаем за патрэбнае выясьніць, што:

1. Гаворачы аб ананімным вялікім сходзе, аўтар успомненага вышэй артыкулу мае на думцы чэрвеньскі гадавы Зьезд ЗБК ў Таронта. Гэта ясна для ўсіх Беларусаў Канады й паза Канадай, дык ня было ніякай патрэбы гаварыць аб сходзе ананімна, а трэба было назваць яго пайменна — сьмела й адкрыта.

2. Прапанову сп. Акулы аб пашыраньні на Экспо антысавецкіх лістовак старшыня Зьезду не замяў, як цьвердзіць аўтар у сваім артыкуле, а катэгарычна адмовіўся паставіць яе на парадак дня — з тэй простай прычыны, што ЗБК ня ёсьць палітычнай арганізацыяй і пашыраньнем палітычных лістовак не займаецца.

3. Прапановы сп. Акулы на Зьезьдзе ЗБК ніхто не перапалохаўся, бо й ня было чаго палохацца. Канада — вольная краіна, тут навет няма цэнзуры, — друкуй, што хочаш, і пашырай, што хочаш. Тут раздаюць розныя лістоўкі амаль на кажным кроку, або рассылаюць поштай — уключна з савецкай прапагандай. І кажнаму вольна ўзяць іх і прачытаць, або адкінуць. Дык ламацца ў вадчыненыя дзьверы, як гэта робіць аўтар артыкулу, аб якім мова, няма ніякай патрэбы.

4. Успаміньне пра фэдэральную паліцыю, якая быццам камусь пальцам намахала, тым больш не на месцы, бо, як нам ведама, яна зь сябрамі ЗБК пра лістоўкі не гаварыла й пальцам не махала. Хіба мо' сп. Акула пашоў пытацца ў яе пра лістоўкі, дык можа яна яму й памахала пальцам.

Цяпер паўстае пытаньне: пашто ўсё гэта? Пашто сп. Акула пытаўся ў нейкага ўрадаўца на Экспо ці ці можна пашыраць лістоўкі? Пашто ён падняў гэта пытаньне на „вялікім сходзе", які такімі справамі не займаецца? Пашто ён піша аб гэтым у газэце, намагаючыся прадставіць ЗБК й сяброў яго, як нейкіх баязьліўцаў, трусоў — там, дзе якраз няма чаго баяцца. Гэта хіба што цікавіць кажнага, хто чытаў артыкул сп. Акулы.

**Др. Б. Рагуля**
**Старшыня 18-га Зьезду ЗБК**

**Др. Р. Жук-Грышкевіч**
**Сакратар Зьезду**

### ДА ВЕДАМА НАШЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ У КАНАДЗЕ

**Прыпамінаем нашым падпішчыкам, якія да гэтага часу не аплацілі падпіскі, што ўжо найвышэйшы час заплаціць свой доўг за газэту. Усім тым, што не аплацяць падпіскі да канца верасьня 1967 году, будзе стрымана высылка газэты. Просім высылаць грошы на адрас нашага адміністратара:**

**Dr. R. ZUK,**
**54 Mary Street, Barrie, Ont.**

## ХРОНІКА

● **Удзел Беларусаў у сьвяткаваньні стагодзьдзя Канады ў Ашаве.** Беларуская Самапомач у Ашаве зарганізавала ўдзел Беларусаў у стагоднім Домініен Дэй у Ашаве. З раніцы беларуская група моладзі на чале зь Міс Белараша ў Ашаве В. Сідаравай прыняла ўдзел у парадзе, едучы ў самаходзе ўпрыгожаным бел-чырвона-белым колерам і канадыйскімі сьцягамі. Вечарам у Сівік Сэнтар тая-ж група прыняла ўдзел у рознанацыянальным паказе народных танцаў. Яна пратанцавала пад кіраўніцтвам сп. Б. Кіркі Юрачку, Крыжачок і Лявоніху. Да танцаў іграла аркестра сп. Б. Лісчонка з Ашавы.

● **Згуртаваньне Беларускае Моладзі Канады** прыняло ўдзел у Зьезьдзе Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы, які адбыўся ў рэсорце Бэлейр-Менск 29 — 30 ліпеня г. г. Танцавальная Група нашай моладзі выступала там на вечары моладзі поруч з танцавальнай групай з Кліўленду. Тым асобам, якія спрычыніліся да арганізацыі паездкі нашай моладзі на Зьезд Моладзі й да пакрыцьця коштаў падарожжа — належыцца вялікая падзяка.

● **Беларуская Каталіцкая Багаслужба ў Таронта.** 16 ліпеня наведаў Беларусаў каталікоў у Таронта а. Ф. Чарняўскі з Амэрыкі й адслужыў для іх імшу ў літоўскім касьцеле.

На пачатку жніўня адведаў Беларусаў каталікоў Таронта й ваколіцаў а. Рабэрт Тамушанскі зь Лёндану (Англія) й адслужыў для іх імшу 6 жніўня ў тым-жа касьцеле. Гэты малады сьвятар вельмі зацікавіў нашых суродзічаў. Ён у трэйцім пакаленьні Амэрыканец беларускага паходжаньня й, ня гледзячы на гэта, добра гаворыць пабеларуску й чуецца Беларусам.

● **Пікнікі ЗБК.** У гэтым леце былі ўжо 2 пікнікі ЗБК. 6 жніўня адбыўся пікнік у Беларускім Цэнтры адпачынку Слуцак, на які прыехалі сябры ЗБК зь сем'ямі з Таронта й Садбуры. Купаліся, лавілі рыбу, гутарылі, адпачывалі — цешыліся добрым надвор'ем і цудоўнай прыродай. Разьехаліся задаволеныя з надзеяй хуткага спатканьня.

Другі пікнік адбыўся ў нядзелю 20 жніўня на фарме Высоцкага ў Пікэрынг з удзелам беларускае моладзі. Даход зь яго быў прызначаны на Беларускую Танцавальную Групу.

● **Выступленьні Беларускай Танцавальнай Групы.** 22 жніўня Беларуская Танцавальная Група пад кіраўніцтвам сп. Б. Кіркі выступіла зь беларускімі народнымі танцамі на штагодняй выстаўцы ў Таронта, а 26 жніўня ў Паянір Віледж пад Таронтам.

*ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫН КАНАДЫ*

*Яго Міласьці Прэзыдэнту Рады Б. Н. Р.*

**Інж. МІКОЛУ АБРАМЧЫКУ**

*Высока-Паважаны й Дарагі Спадар Прэзыдэнт,*
*Управа Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады вітае Вас з 65-тымі ўгодкамі Вашага жыцьця й шле Вам найшчырэйшыя пажаданьні здароўя, шчасьця й яшчэ многіх, многіх гадоў плённай працы для дабра нашае справы.*
*З пажаданьнямі прыміце нашу Вам адданасьць і пашану.*

**Управа ЗБЖК**
**6-га жніўня, 1967 году**

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

*Яго Міласьці Прэзыдэнту Рады Б. Н. Р.*

**Інж. МІКОЛУ АБРАМЧЫКУ**

*Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Прэзыдэнт,*
*Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады мае гонар і радасьць вітаць Вас з 65-мі ўгодкамі Вашага жыцьця й шле Вам найсардачнейшыя пажаданьні добрага здароўя, яшчэ многіх гадоў шчасьлівага асабістага жыцьця, дый шматлікіх і багатых плёнамі гадоў працы для нашае вызвольнае справы.*
*За Вашу бяспрыкладную ахвярнасьць, вытрываласьць і часта надлюдзкія высілкі ў змаганьні за нашы ідэялы мы Вас, як нашага Правадыра, дорым глыбокай пашанай, любоўю й поўным даверам.*
*Хай Вас Бог мае ў сваёй апецы на многія гады.*

**Галоўная Управа ЗБК**
**6-га жніўня, 1967 году**

*Яго Міласьці Прэзыдэнту Рады Б. Н. Р.*

**Інж. МІКОЛУ АБРАМЧЫКУ**

*Вітаем Вас з 65-ымі ўгодкамі Вашага жыцьця й жадаем Вам шмат шчасьця, здароўя й плённай працы для беларускай справы на доўгія гады.*

**Канадыйская Рэдакцыя „Беларуса"**
**6-га жніўня, 1967 году**

### БЕЛАРУСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ БАГАСЛУЖБА Ў БЭЛЕЙР-МЕНСКУ

Беларускі каталіцкі сьвятар Робарт Тамушанскі ў нядзелю 13-га жніўня ў Беларускім Цэнтры Адпачынку „Бэлейр-Менск" адправіў сьв. імшу зрэфармаванага, паводля пастановаў апошняга Ватыканскага Сабору, заходняга абраду, большая частка якой праходзіла не ў лацінскай, а ў беларускай мове. Пасьля Службы а. Робарт Тамушанскі сказаў прыгожае казаньне ў беларускай мове. На Службе была прысутная вялікая колькасьць вернікаў.

### СПРАСТАВАНЬНЕ

**У артыкуле К. Акулы „Экспо — 67 і Беларусь", надрукаваным у № 123-124 „Беларуса", праз няўвагу зьявілася некалькі сказаў, якія Галоўная Управа ЗБК ўважае за злосны выпад супраць апошняга Зьезду ЗБК.**

**У сувязі з гэтым моцна перапрашаю Галоўную Управу ЗБК і Канадыйскую Рэдакцыю „Беларуса", што пры рэдагаваньні папярэдняга нумару газэты гэныя сказы ня былі вычаркнутыя.**

**Галоўны Рэдактар і Старшыня Рэдакцыйнай Калегіі „Беларуса"**

## МАСКВА ЗАБІЛА ІДЭЮ СЛАВЯНСКАЙ ФЭДЭРАЦЫІ

Карэньні панславізму — злучэньне ўсіх славянскіх народаў уваднэй фэдэрацыі — паходзяць ад заходніх і паўдзённых славянаў, зь якіх большая частка была пад уладай Аўстра-Вугорскай Імпэрыі, а меншая — пад турэцкай уладай.

Ужо ў 1659 г. харвацкі сьвятар Юры Крыжаніч паехаў у Маскву „да цара майго плямяні", каб пераканаць яго ў патрэбе панславізму. Тады маскоўскі цар ня чуўся йшчэ на сілах, каб выкарыстаць панславізм для сваіх імпэрыялістычных мэтаў, а мо' й не разумеў яго.

Панславізм, як культурны й палітычны кірунак выкрышталізаваўся ў 19 стагодзьдзі пад уплывам рамантызму й аб'яднаўчага руху Немцаў. Спрычыніліся да гэтага таксама сваімі навуковымі працамі аб славянах вучоныя славістыя, Ягіч, Доброўскі й Шафарык, а асабліва славацкі паэта Ян Коляр, які ў сваёй паэзіі заклікаў славянаў да аб'яднаньня.

Рэвалюцыя 1848 году ў Аўстрыі й Нямеччыне — гэтак званая „Вясна Народаў" значна ўзмоцніла панславянскі рух. Тады быў скліканы Першы Славянскі Кангрэс у Празе Чэскай пад старшынствам чэскага гісторыка й патрыёты Паляцкага. У гэтым кангрэсе ўзялі ўдзел славянскія народы, што былі пад Аўстрыяй: Харваты, Славенцы, Чэхі, Славакі, Палякі й Русіны-Украінцы з Галічыны. Калі рэвалюцыя была здушаная — былі здушаныя й славянскія рухі, а славянскія народы зноў апынуліся пад уладай Аўстрыі або Вугоршчыны. Яны скіравалі свае надзеі на вызваленьне на Расею, і цэнтрам панславізму сталася Масква.

Але Масква зразумела ідэю панславізму пасвойму, на сваю карысьць. Ужо Пушкін пісаў, што ўсе славянскія ручаі зьліваюцца ў вадзіным расейскім моры. Расейская-ж царская палітыка пабачыла добрую нагоду выкарыстаньня панславізму для падпарадкаваньня сваёй уладзе ўсіх славянскіх народаў. Падтрымлівала гэтую палітыку й расейскае грамадзтва, у якім пашырыўся сільны рух „славянафільства", на чале якога сталі расейскія дзеячы Хамякоў і браты Кірэеўскія. Рух гэты супрацьставіўся заходняй культуры й цывілізацыі ды глёрыфікаваў расейскае праваслаўе й царскі абсалютызм. На ім базаваўся расейскі нацыяналізм і імпэрыялізм. Падтрымліваў славянафільства й Дастаеўскі, а расейскі гісторык Пагодзін і пісьменьнік Данілеўскі прадбачылі, што панславізм прывядзе да фэдэрацыі ўсіх славянскіх народаў пад зьверхнасьцяй Расеі й што граніцы гэтай фэдэрацыі стануць на лініі Шчэцін — Трыест.

На руку расейскіх славянафілаў быў вызвольны рух супроць Турэччыны Баўгараў і Сэрбаў на Балканах, якія шукалі расейскай помачы й пратэкцыі. Пры такіх настроях і абставінах быў скліканы Другі Славянскі Кангрэс у Маскве ў 1867 годзе.

Гэты Славянскі Кангрэс ня меў вялікага значэньня. Чорнай плямай ляжаў на ім 1863 год — здушэньне Расейцамі польскага паўстаньня й паўстаньня Кастуся Каліноўскага на Беларусі. Для ўсіх было ясным, што расейскі панславізм нясе няволю славянскім народам.

Далейшыя славянскія кангрэсы адбываліся пасьля расейскай рэвалюцыі 1905 году ў Празе Чэскай і Сафіі, інсьпіратарам якіх быў чэскі кансэрватыўны палітык Кароль Крамаж.

Бальшавікі ня прызнавалі панславізму. Ленін казаў, — панславізм — гэта рэакцыйны буржуазны рух, які разьбівае клясавую салідарнасьць. Аднак калі ў 1941 годзе Гітлер напаў на Савецкі Саюз, Сталін кінуўся на выкарыстаньне панславізму для сваіх палітычных мэтаў. У Маскве быў створаны Славянскі Камітэт, які заклікаў усіх славян да змаганьня зь Немцамі. Была праведзеная шырокая акцыя арганізаваньня славянскіх камітэтаў у Паўночнай і Паўдзённай Амэрыцы сярод славянскіх нацыянальнасьцяў эміграцыі на падтрымку Савецкага Саюзу. А як кончылася вайна, камітэты гэтыя сталіся асновай дзейнасьці камуністычнай партыі.

У 1946 годзе савецкі генэрал А. Гундоров — старшыня маскоўскага славянскага камітэту — склікаў у Белградзе канфэрэнцыю ўсіх славянскіх камітэтаў, якая пастанавіла склікаць Усеславянскі Кангрэс у сьнежні 1946 году ў тым-жа Белградзе. Дамінуючай фігурай на гэтым Кангрэсе быў маршал Ціта, а Белград быў абраны за сталую сядзібу Цэнтральнага Панславянскага Камітэту.

Але праз паўтара году разрыў Ціта із Сталінам падарваў дзейнасьць гэтага Камітэту. З таго часу заглохла ягоная дзейнасьць. Незалежна ад гэтага, ідэя панславізму даўно ўжо сталася мёртвай, хоць камуністыя й стараліся ажывіць яе для сваіх імпэрыялістычных мэтаў. Забіла гэтую ідэю Масква — спачатку царскі імпэрыялізм, а пазьней бальшавіцкі. І якія-ж славянскія народы могуць верыць у ідэю панславізму, калі яны бачаць, як жывуць паняволеныя Масквой Беларусы й Украінцы, як расейскія шавіністыя стараюцца зьнішчыць нацыянальную й культурную самабытнасьць гэтых народаў пры помачы прымусовай русыфікацыі.

Другі Кангрэс Канадыйскіх Славянаў ня меў нічога супольнага з палітычнымі тэорыямі панславізму, якія ў практыцы зводзіліся да расейскага імпэрыялізму.

Кангрэс гэты базаваўся на штодзенным практычным жыцьці славянскіх этнічных групаў Канады, браў пад увагу іх практычныя патрэбы, іх культурныя й грамадзкія арганізацыі, сумаваў вынікі іх працы, як уклад у разбудову Канады. У гэтым практычным падыходзе выявілася салідарнасьць славянскіх групаў, узаемная пашана й супрацоўніцтва на аснове канадыйскіх прынцыпаў дэмакратычнай свабоды й роўнасьці для ўсіх грамадзян.

Выказаў усё гэта вельмі прыгожа Мр. Лёрэнц — пасол Антарыйскага Парляманту, як госьць сьпікэр на нядзельным банкеце ўдзельнікаў Другога Кангрэсу Канадыйскіх Славянаў у Бікон Армс Гатэлі ў Атаве, зводзячы сваю прамову да параўнаньня правядзеньня тэорыі панславізму ў палітыцы й вольнае супрацоўніцтва славянскіх нацыянальнасьцяў на практыцы ў Канадзе.

**Ж.**

## БЕЛАРУСКІЯ АНТЫСАВЕЦКІЯ БРАШУРЫ НА ЭКСПО—67

Савецкі нацыянальны дзень на Сусьветнай Выстаўцы ў Монтрэалі адбыўся 15 жнівеня сёлета. Ужо з тае прычыны, што Масква выдэлегавала на Выстаўку першага заступніка прэм'ера Касыгіна — Палянскага, увага шмат якіх людзей была зьвернутая на Монтрэаль.

Група беларускіх патрыётаў у Вольным Сьвеце падрыхтавала для распаўсюджваньня на Выстаўцы ў гэты дзень адмысловыя пратэстацыйныя брашуры. Яны былі надрукаваныя ў францускай і ангельскай мовах на васьмёх бачынах. На вокладцы — прыгожы малюнак беларускага мастака: паняволены Беларус закуты ў ланцугі на фоне чырвонай зоркі. Брашура пад загалоўкам „Беларусь у маскоўскім ярме" давала кароткі нарыс гісторыі Беларусі з асаблівым націскам на „сувэрэннасьць" маскоўскае фікцыі БССР ды інфармацыі пра вынішчэньне маскоўскім каляніяльным рэжымам беларускага народу, ягонае культуры, эксплятацыю людзкіх і прыродных рэсурсаў.

15-га жнівеня ў Монтрэалі быў цудоўны сонечны дзень. На Пляцы Нацыяў, дзе мелася адбыцца галоўная ўрачыстасьць савецкага дня, зыйшліся тысячы людзей. Як і трэба было спадзявацца, гаспадары добра парупіліся пра меры бясьпечнасьці для савецкіх гасьцей. Чырвоныя мундзіры фэдэральнае паліцыі — РСМП, шэра-блакітныя — Бясьпекі Экспо — 67 і чорныя — монтрэальскае паліцыі сьценамі сталі ў найбольш стратэгічных месцах. Апрача гэтага, шмат паліцэйскага пэрсаналу ў цывільнай вопратцы расьселася сярод прысутных, каб мець пільнае вока для кантролі няпрыязных савецкаму гасьцю элемэнтаў. Усе франтавыя месцы й далёка ўглыб навокал стадыёну макам абселі матросы з трох савецкіх параплаваў. Масква, як відаць, добра парупілася пра бясьпеку.

10-ай гадз. раніцы пачалася праграма. Сьпевакі опэры з тэатру „Бальшой" пад гукі аркестры цешылі слухачоў творамі расейскай і савецкай клясыкі. Пры галоўным паўдзённым уваходзе на пляцы сабраліся зь гіганцкімі сьцягамі прадстаўнікі ўсіх 15-ёх „сувэрэнных" рэспублікаў СССР. У гэты час беларускія патрыёты, абладаваныя брашурамі, займалі „стратэгічныя месцы" між натоўпу.

Вось пад гукі аркестры прадстаўнікі савецкіх рэспублікаў уваходзяць на пляц із сьцягамі. Трэйці з парадку ў руках дзяцюка ў беларускай народнай вопратцы плыве савецкі беларускі сьцяг. Збоку — дзьве па-народнаму апранутыя дзяўчыны. Працэсія спыняецца й разьмяшчаецца паўколам тварамі да трыбуны. Воплескі слабыя, бальшыня людзей маўкліва сочыць за парадам. Пасьля ўваходзяць канадыйская ганаровая варта й раўняецца ў два шэрагі перад трыбунай. Пад гукі савецкага гімну павалі, побач з канадыйскім сьцягам, уздымаецца на машту савецкі сьцяг. Дзесь воддаль гармата адлічвае дзевятнаццаць стрэлаў.

Тысячы людзей маўкліва сочаць за фігурай сярэдняга росту Палянскага, што ў суправодзе іншых робіць агляд ганаровае варты. Толькі прайшоў ён перад заднім шэрагам і завярнуўся на трыбуну, як з правае сэкцыі перапоўненага пляцу, зараз-жа побач прэсавае сэкцыі, пачаўся моцны гарласты голас, добра чутны па ўсёй прасторы пляцу: „Вольнасьць Беларусам!", „Далоў маскоўскіх забойцаў"! Гэтыя два клічы былі ў ангельскай мове, а трэйці — „Няхай жыве вольная Беларусь!" — у беларускай. Уверх з гэтага месца паляцелі над галовамі людзей сотні брашураў. Беларускі пісьменьнік Кастусь Акула не агледзіўся, як „анёлы-вартаўнікі" падхапілі яго падрукі й далонямі закрылі рот. Навакол арыштаванага ўзварухнуліся людзі, як верхавіны дрэваў лесу перад бурай. Сотні рук падымалі брашуры. З прэсавае сэкцыі зьявіліся рэпартэры й фатографы.

Крык аднаго чалавека, якому ўдалося перахітрыць паліцыю, ня спыніў урачыстасьцяў унізе на пляцы. Але ў гэны дзень міліёны людзей пачулі пра Беларусь. Крык пратэсту ня быў дарэмны.

Акулу патрымалі ў вязьніцы монтрэальскае паліцыі пяць гадзінаў, а вечарам, заплаціўшы 25 даляраў кары за „нарушэньне публічнага парадку", Акула вярнуўся на сваё памешканьне. Варта заўважыць, што монтрэальская паліцыя, як і судзьдзя, адносіліся да арыштаванага вельмі карэктна, нават з пашанай.

Пра арышт беларускага патрыёты падавала двойчы мясцовая й трансканадыйская тэлевізійная сетка ды пісалі шмат якія канадыйскія газэты з кароткімі інфармацыямі пра зьмест беларускай брашуры.

**Сьветка**

## ЖЫВЕ ПАГАРДЖАНЫ ТЭРСІТ

**1937 — 1967**

У сваіх успамінах „Лісткі календара" („Полымя", № 1 за 1967 г.) Максім Танк, пад датай — 22. 5. 1937 г. — адзначае:

**„У бібліятэцы імя Урублеўскіх дастаў 69, 70 нумары „Зьвязды" з артыкулам Александровіча і Кучара аб выкрыцці ворагаў народу ў літаратуры".**

З прычыны 30-х угодкаў гэтага гістарычнага артыкулу ўважаю за патрэбнае часткова пазнаёміць зь ягоным агідным зьместам, а менавіта:

**„Цішка Гартны — гэта заядлы вораг Савецкае Ўлады; творчасьць яго шкодная, бяздарная, а сам ён правакатар і нацыяналіст.**

**Чарот — гэта вораг народу, а творчась яго поўная подлага здрадніцтва інтарэсаў краіны.**

**Зарэцкі — контррэвалюцыянер, мярзотнік і нягоднік, які ў сваёй творчасьці праводзіў праграму нацыянал-фашызму.**

**Баранавых — ядавітая кулацкая гадзіна, а культура яго на ўзроўні дарэвалюцыйнага канавала.**

**Вольны, Хадыка, Кляшторны і іншыя — гэта гнусныя тыпы, атручаныя чадам алькаголю, якія дзеля разлажэньня радоў савецкіх пісьменьнікаў насаджвалі бытавы расклад, п'янства, багему, ад якой адзін шаг да фашызму".**

*Non multa, sed multum.*

Шмат народных крыві й сьлёзаў сплыло за 30 год. Цішка Гартны звар'яцеў пасьля нялюдзкіх катаваньняў і заўчасна сканаў у магілеўскай псыхіятрычнай бальніцы ДПУ. Міхась Чарот і Міхась Зарэцкі бязь літасьці расстраляныя. Сымон Баранавых, Анатоль Вольны, Уладзімер Хадыка й Тодар Кляшторны, як пакутнікі загінулі ў канцэнтрацыйных лягерах Сібіру. Аднак, калі, паводля Фрыдрыха Шылера, і няма, на жаль, вялікага Патрокла, дык затое жыве пагарджаны Тэрсіт.

У тым-жа № 1 „Полымя" за 1967 г., у хроніцы, чытаем:

**„Вечар, прысьвечаны 70-годзьдзю з дня нараджэньня вядомага беларускага паэта Міхася Чарота, адбыўся 18 лістапада ў клюбе Саюзу пісьменьнікаў БССР".**

Далей у паведамленьні прыгадваюцца паэты, артыстыя й навукоўцы, якія годным чынам ушанавалі памяць вялікага беларускага паэты. І цікава — ці прысутнічаў на гэтым вечары ўбогі савецкі мяшчанін з партбілетам у кішэні камізэлькі, местачковы рамізьнік Алесь Кучар?

**Юрка Віцьбіч**

### РАЗЬВІТАНЬНЕ З ДР-АМ Л. ТРУСЭВІЧАМ

Дня 2-га ліпеня сябры й сымпатыкі Аддзелу БАЗА Дэтройт зьехаліся на беларускай фарме „Засьценак", каб зладзіць гучнае разьвітаньне із сакратаром Аддзелу др. Лявонам Трусэвічам, як ў парадку службовага абавязку пераяжджае з Дэтройту ў Флярыду. Пражыў ён тут у нас 4 гады, прыймаючы разам із сваей жонкай Эвэлін, вельмі актыўны ўдзел у арганізацыйна-грамадзкай працы. Старшыня Аддзелу, сп. мгр. В. Пляскач, ад сэрца падзякаваў др-у Лявону і яго жыцьцёвай спадарожніцы за адданую працу на грамадзкай ніве і ўручыў ім скромны падарак ад Беларусаў Дэтройту, а прысутныя звонка прасьпявалі ім „Сто год". Была выражаная надзея, што яны не парвуць зусім сувязяў з прыяцелямі ў Дэтройце, а ў Флярыдзе зарганізуюць прынамся Дэлегатуру БАЗА.

**В. П.**

**Ад Рэдакцыі:** Прыемна адзначыць, што д-р Лявон Трусэвіч да апошняга часу быў прадстаўніком і кальпартэрам газэты „Беларус" у Дэтройце й шмат спрычыніўся сваёй адданай і сумленнай працай да пашырэньня беларускага друкаванага слова. Рэдакцыя „Беларуса" складае яму за гэта шчырую падзяку й жадае яму як найбольшае памысьнасьці й далейшае плённае беларускае дзейнасьці на новым месцы.

## Парахвіяльнае Сьвята у Дэтройце

Так выпала, што маладой парахвіі БАПЦ імя Сьвятога Духа ў Дэтройце прышлося ладзіць сваё парахвіяльнае сьвята хутка пасьля яе афіцыйнага заснаваньня. Як гэта ўжо ўвайшло ў добрую традыцыю, нашы землякі-суседзі з Кліўленду пад'ехалі да нас з маральнай і практычнай дапамогай. І рэзультат быў вельмі ўдалы.

Дарагі наш а. Архімандрыт Мікалай урачыста адслужыў Сьв. Літургію й Малебен, пры асысьце дасканалага хору, у перапоўненай царкве. А. Мікалай сказаў прыгожую прынагодную навуку, навязваючы да народу ізраэльскага, як да прыкладу ахвярнасьці й адданасьці агульнай справе.

Пасьля Багаслужбы ўсе вернікі былі запрошаныя на супольны абед у залю пад царквою. Сабралася столькі сваіх і гасьцей, Беларусаў і Украінцаў, шо стала цесна ў прасторнай залі. Смачны абед прыгатавалі і падалі на сталы тыя самыя нашы дэтройцкія працавітыя жанчыны, без ахвярнай, ціхой працы якіх не абыйдзецца ніякая імпрэза. Было шмат прывітаньняў, добрых пажаданьняў, падмацаваных тостамі й грашовымі ахвярамі на дабро новай Парахвіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Але сярод сьвятла й весялосьці знайшоў сабе месца і пануры цень... Сярод прадстаўнікоў усіх грамадзка-палітычных і маладняцкіх арганізацыяў, што віталі нас із сьвятам, ня было чутно голасу Царкоўнай Рады нашай суседняй Парахвіі БАПЦ імя Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, ані яе настаяцеля а. Аляксандра Крыта. Гэта лішні нам напамінак, што варожыя разбуральніцкія сілы ня дрэмлюць, і нам трэба быць гатовымі даць ім належны адпор у кажны час.

Усім нашым сяброўкам і сябром з Кліўленду, асабліва-ж дырыгенту сп. К. Кісламу, усім нашым спрыяльнікам з украінскай праваслаўнай Парахвіі Сьв. Андрэя, у царкоўным будынку якіх мы сасьцілі, і дарагому а. Архімандрыту гэтым месцам выражаем глыбокую падзяку за ласкавы ўдзел, за помач і падтрымку ў наладжаньні гэтага нашага першага царкоўнага сьвята ў Дэтройце.

**Царкоўная Рада**

## БЕЛАРУСЫ Ў АРГЕНТЫНЕ

Апошнім часам у савецкім друку, прызначаным для беларускае, украінскае й расейскае эміграцыі ў краёх заходняга сьвету, шмат пішацца пра Аргентыну, пра гэтак званых „зварачэнцаў на радзіму", што, пажыўшы на бацькаўшчыне колькі год, паварочаліся ў Буэнос Айрэс ды іншыя аргентынскія гарады, тлумачыцца, чаму яны вярнуліся, расхвальваюцца савецкія парадкі й ганяцца парадкі аргентынскія. Усё гэта робіцца, відаць, у сувязі з тым, што апошнім часам у праўным стане аргентынскіх Беларусаў — як зрэшты й іншых эмігрантаў з Усходняе Эўропы, адбыліся дзе-якія зьмены, што спрычыніліся да заняпаду сярод іх даволі моцных яшчэ год 8-10 таму савецкіх уплываў.

Справа ў тым, што да 1966 году Беларусы ў Аргентыне мелі шмат клопату з мэтрыкамі. Калі хто мэтрыкі ня меў, мусіў яе нагвалт стараццa. Мэтрыка зацьверджаная кансулятам у Маскве была патрэбная эмігрантам у Аргентыне й на атрыманьне грамадзянства і на атрыманьне дазволу на шлюб, і ў стараньнях пра пэнсію.

Як правіла, савецкія ўлады выдаваць гэткіх мэтрыкаў не сьпяшаліся, ліставаньне між аргентынскімі й савецкімі ўстановамі цягнулася гадамі, а калі нейкі адказ і прыходзіў, дык пераважна адмоўны, мэтрыка, маўляў, загінула ў ваенныя гады. Праўда, былі — вельмі рэдкія — выпадкі, што мэтрыка ўсё-ж прыходзіла. Але яе найчасьцей нельга было скарыстаць дзеля перакручаных у дакумэньце датаў, прозьвішчаў, месца нараджэньня. Усё гэта ствярала людзям вялікія цяжкасьці, бо ў Аргентыне нармальнае жыцьцё без дакумэнтаў было справай не заўсёды лёгкаю.

Фармальнасьці гэтыя ня былі тутака звычайнымі бюракратычнымі прычэпкамі. Дыктаваліся яны своеасаблівымі абставінамі аргентынскага жыцьця. Аргентына — вялізманы край, што ўсьцяж расьце, разьвіваецца, мяняецца. Жыхарства гарадоў штогод то павялічваецца, у вялікай меры коштам жыхароў з глухое правінцыі. Шмат людзей прыходзіць з далёкае „пампы" — мала населеных дзікіх прастораў. Дакумэнтаў у іх ніякіх няма, няведама ні дзе яны нарадзіліся, ні колькі ім год. Няведама, калі іх паклікаць у войска, а калі моладзь хоча жаніцца, няма ніякае пэўнасьці, ці ня вяжа маладых блізкае сваяцтва, ці не замаладыя яны, каб жаніцца. Было дый яшчэ ёсьць у Аргентыне цімала й розных прайдзісьветаў. Лёгка даючы ім пашпарт, аргентынскія ўлады адно дапамагалі-б гэткім „птушкам" у іхных цёмных справах. Усе гэтыя прычыны й змушалі аргентынскі ўрад ставіцца зь недаверам да кажнага новапрыбылага ды вымагаць ад яго ўсюды арыгінальных дакумэнтаў.

Але цяпер дачыненьні ўладаў да імігрантаў зьмяніліся. Сочачы працягам даўжэйшага часу іміграцыю з Усходняе Эўропы, у тым ліку й Беларусаў, аргентынскія ўлады прыйшлі да высnаву, што гэта вартасныя, працавітыя й здольныя — у бальшыні — людзі. І вось, на пачатку 1966-га году ў Аргентыне выйшаў закон, што дазваляе людзям рабіць заменныя дакумэнты на аснове сьветкаў ды лекарскага агляду дзеля сьцьверджаньня прыблізнага веку.

Новы закон стаўся вялізарнаю палёгкаю для імігрантаў з Усходу. Скончыліся бясконцыя вандроўкі па ўрадах, наведваньні савецкага паўпрэдзтва. Савецкія ўплывы на эміграцыю з Усходняе Эўропы з гэтае прычыны паменшалі, Спрычыніўся да заняпаду гэтых уплываў і цэлы рад іншых падзеяў ды справаў. Цімалую ролю, прыкладам, адыгралі тутака й гэткія зьявы, як зварот у Аргентыну апошнімі гадамі вялікае колькасьці гэтак званых „зварачэнцаў на радзіму", ды прывезенае імі горкае дазнаньне з жыцьця там, сваркі між аргентынскімі камуністымі, іхны падзел на прасаветчыкаў, пракітайцаў, пракастраўцаў, а таксама зьменшаньне — на загад аргентынскіх уладаў — штату савецкага пасольства.

**Э. Цяўлоўскі**

### КОЛЬКІ ЗОЛАТА Ў СЬВЯТЛЯНЫ?...

Як паведамляе Уошынгтон Обсэрвэр Нюслеттэр № 40 — інфармацыйны бюлетэнь радыкальных рэспубліканцаў у Кангрэсе — ёсьць доказы, што бацька Сталін парупіўся належна забясьпечыць сваю дачушку ад усякіх нягодаў камуністычнага раю. Усуперкі агульна прынятаму пагляду, урад ЗША зусім не налягаў на тое, каб Алілуева наведала Швайцарыю, перад сваім выездам у Амэрыку. Ёй адразу была даручана віза, зь якой яна не захацела скарыстаць, а настойвала, каб яе даставілі ў Бэрн. Цягнула яе туды нешта крыху больш рэальнае, чымся звычайная турыстычная цікавасьць. У той крытычны час, калі Немцы падыходзілі пад Маскву, Сталін загадаў перавесьці 300 міліёнаў даляраў золатам з Масквы ў Швайцарыю і дэпазытаваць на сваё імя ў бэрнскім банку. Пазьней, ён зрабіў Сьвятляну адзінай праўнай спадкаемніцай гэнага скарбу.



## БЕЛАРРУСКІЯ КРУЖЭЛКІ

Беларускае Выдавецкае Таварыства пры Галоўнай Управе Злучанага Беларуска - Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту выдала дзьве доўгаграйныя кружэлкі.

Першая кружэлка хору „Каліна", пад мастацкім кіраўніцтвам кампазытара К. Барысаўца, зьмяшчае трынаццаць наступных песьняў:

**Бачына 1:**

1. **Васількі** — муз. М. Куліковіча, словы М. Кавыля;
2. **Ля рэчкі** — муз. К. Барысаўца, словы Я. Золака, солё А. Махнюк;
3. **Сьцежка палявая** — муз. Я. Любана, словы А. Бачылы;
4. **Ой, бяда-ж мая** — народная, аранж. А. Капосава і К. Барысаўца;
5. **Белыя кветкі** — муз. Ю. Семянякі, словы А. Бачылы. дуэт — Р. Касьцюк і В. Цярпіцкі;
6. **Нашто бабе агарод** — муз. А. Туранкова, словы Я. Купалы;
7. **Ня веру** — муз. К. Барысаўца, словы Л. Геніюш, солё А. Махнюк.

**Бачына II:**

1. **Гнула вішаньку** — муз. К. Барысаўца, словы Я. Золака, хор і солё Л. Махнюк;
2. **У няведамую даль** — муз. К. Барысаўца, словы М. Кавыля, дуэт Р. Касьцюк і Л. Махнюк;
3. **Вясна прыходзіць зноў** — муз. К. Барысаўца, словы М. Хведаровіча;
4. **Я іду дарогаю** — муз. М. Куліковіча, словы Ул. Клішэвіча;
5. **Каля Нёману** — муз. К. Барысаўца, словы А. Русака, хор і дуэт Р. Касьцюк і В. Цярпіцкі;
6. **Юнацкае сэрца** — муз. Ю. Семянякі, словы А. Бачылы.

**Лірычныя песьні:**

**Бачына I:**

1. **Ліст** (з опэры „На край сьвятла"), муз. Д. Верасава, словы М. Сяднёва, солё Р. Касьцюк, піяно Д. Верасаў;
2. **Паэма** — муз. З. Фібаха, арр. Д. Верасава, словы М. Кавыля, дуэт — Л. Махнюк і Р. Касьцюк;
3. **Жаваранак** — муз. М. Глінкі, словы М. Кавыля, дуэт — Р. Касьцюк і Л. Махнюк;
4. **Рыбацкая калыханка** — народная, арр. Д. Верасаў, апр. М. Кавыля, солё — Р. Касьцюк, піяно — Э. Шак;
5. **Толькі з табою** — муз. І. Любана, словы А. Русака, арр. К. Барысаўца, дуэт — Л. Махнюк і Р. Касьцюк.

**Бачына II:**

1. **Сьнег** — муз. Д. Верасава, словы М. Сяднёва, солё А. Махнюк, піяно Д. Верасаў;
2. **Калыханка** — муз. А. Карповіча, словы С. Ясеня, дуэт — Ю. Сенькоўскі і Ул. Цьвірка, піяно А. Карповіч;
3. **І трэба-ж было здарыцца** — муз. А. Карповіча, словы С. Ясеня, солё Ул. Цьвірка, піяно А. Карповіч;
4. **Драўляны дом** — муз. А. Карповіча, словы М. Сяднёва, солё П. Паўлік;
5. **Лявоніха** — муз. А. Туранкова, словы М. Багдановіча, дуэт — Ю. Сенькоўскі і Ул. Цьвірка;
6. **Вясна** — муз. К. Барысаўца, словы М. Кавыля, трыо — Р. Касьцюк, Л. Махнюк і А. Махнюк.